# Клуб ліцэіста

Дарагія ліцэісты, прапануем вам пастаянную старонку ў «Ніве». Лічым, што ў вас ёсць шмат пытанняў, якія вам не даюць спакою: сяброўства, мары аб будучыні, першыя літаратурныя спробы, ці іншыя, не менш хвалюючыя вас, справы.

Жадаем стварыць вам спрыяльныя ўмовы да публічнай дыскусіі, абмену думак і творчых пошукаў. Ад вас залежыць, як гэтыя ўмовы выкарыстаеце. Сёння ў «Клубе» першыя літаратурныя выступленні вучняў беларускага ліцэя ў Бельску (выказваем падзяку дырэктару ліцэя М. Гайдуку за аказаную дапамогу ў падборцы матэрыялу). Чакаем на наступных аўтараў, не толькі з Бельскага ліцэя, і не толькі з літаратурнай творчасцю.



## КАХАЎ

І зоры свяцілі
Месяц усміхаўся і той
Шапталі дрэвы
І ты з ёю шаптаў
У зямны рай
Крыллі кахання
Цябе занеслі.
А калі здрадай
Накарміла цябе
Усё ты пракляў
Тыя мілыя ўспаміны
І тую мінуту спаткання
І кляў ты да тое пары
Пакуль другой не спаткаў
Зноў
Нанава
Ты браце кахаў.
* * *
Не кляні больш
Прашу я браце цябе.

МІКОЛА ІВАНЧУК




Цямнее. Дзень адыходзіць дзесьці далёка, далёка, — наступае ноч.

Можа я яе чакала?.. Цёмна, можна ісці, і ніхто цябе не ўбачыць, не пазнае — не люблю людзей. Глядзяць на цябе і, здаецца, нават ведаюць, што чалавек думае. Іх вочы чужыя, няздобрыя, вось, вось пачнуць смяяцца — а мне будзе сорамна.

Я хацела б уцячы, але не магу — людзі, людзі — яны глядзяць...

Але ці ўсё людзі аднолькава злосныя? Мо гэта толькі так здаецца?

Я люблю думаць, калі на дварэ пачынае цямнець.

Перад вачыма бачу мінулыя дні. Дні, якія ўжо ніколі не паўтараюцца.

Вось еду цягніком... Я нічога не чую і не бачу. Сяджу, як акамянелая, перад усім думаю аб спатканні. Думкі гэтыя нападаюць мяне страхам.

— Не, я не буду плакаць, я не павінна. Так... трэба быць упэўненай у тым, што буду гаварыць. Але чаму я плачу? — Не трэба, не трэба... — грукаюць колы цягніка. Плач не паможа, але не слухаю гэтага грукату. Плакаць магу, мне ніхто не забароніць.



Цягнік затрымаўся, я выйшла нічога не чуючы і не бачачы. Людзі беглі, спяшаліся, міналі мяне, а я ішла, ішла і раптам усведаміла сабе, што іду не туды, дзе патрэбна. Я пачала бегчы ўсё хутчэй і хутчэй. — Ой, каб хаця не было доктара! Ужо відаць будынак бальніцы, далей не магу ісці, неяк слаба — села.

Прашло некалькі хвілін, не магу зварухнуцца. Мама... што я табе магу сказаць, я не павінна, не, не скажу праўды.

Я бачу Твае вочы, у якіх відаць нямое запытанне. Вочы Твае гавораць — «я ўсё ведаю, вы не хочаце мне сказаць і я маўчу», але мы разумеем адзін адного.

Мама, Ты ўсё ведала...

Мама, Ты забыла, што я цябе хутка забуду. Аднак Ты многа памылілася — я цябе заўсёды помню.

...Мама!!!...

РАІСА ЛЕЎЧУК



## ПАМЫЛКА ЖЫЦЦЯ

Зімні марозны вечар. На небе мігацяць бледнасінія, скаваныя марозам, зоркі. Трашчыць мароз. Ніводнага чалавека не відаць на дварэ.

Раптам нечакана пачуўся голас сабакі. Пачуўся нейкі жаласны плач на двары Сцяпана. Плач жанчыны было чуваць далёка. Вартавы падышоў бліжэй Сцяпанавага двара. Пачуліся бодрыя крокі па скрыпучым снезе жонкі Сцяпана — Ганны. Пабегла ўстрывожаная нейкім няшчасцем жанчына ў суседні панадворак.

— Ой, божа, мой божа, якая я на гэтым свеце грэшная, ой, людцы добрыя, ратуйце! Ой, Сцяпанка... — гэтак галасіла Ганна суседцы.

— Што здарылася, што з табою? — не адступала суседка Маруся.

Суседка Маруся — гэта вядомая знахарка аколіцы. Яна «лечыць» многіх людзей.

— Ой! Памажыце выбавіць Сцяпана ад смерці, памірае! — прасіла Ганна Марусю.

Сцяпанка — гэта вядомы п'яніца аколіцы. Вяртаўся ён з горада п'яны лежачы ў возе. Кабыла яго нечага спужалася, пабіла воз і яго. Падабралі добрыя людзі яго з дарогі і прывезлі. Ляжыць Сцяпан ледзь жывы.

Маруся ўзяла з сабою зелле, хлеб свяшчоны і пайшла «лячыць» хворага. Села яна над хворым і пачала шаптаць, раскладаць зелле і хлеб. Хворы не даваў знакаў жыцця. Яму было ўсё горш і горш.

— Можа б так прывезці доктара? — сказала адна з суседак.

— Калі бабкі Марусі малітвы не памагаюць, то што паможа доктарава лякарства, — сказала другая.

— У мяне і грошай многа няма, — прабурчала сабе пад носам Ганна.

— Трэба ж заплаціць бабцы Марусі.

— Што табе даражэй: жыццё мужа ці грошы? — прагаварыў нейкі голас.

Была поўнач. Сцяпан ляжаў непрытомны. Знахарка ўсё шаптала і шаптала.

Раптам Маруся сказала ціхім голасам: — Падайце свяшчоную свечку, напэўна ён памрэ.

Сціснуў моцна ў руках Сцяпан свечку і памёр. Загаласіла жонка і суседзі. Збялелы твар Ганны абліўся халоднымі кропелькамі поту. Яна ледзь не абамлела. Яна дрыжала. «Жыццё без мужа» — гэтыя думкі не выходзілі з галавы Ганны. Яна не магла гэтага жыцця сабе ўявіць.

— Ой, што я зрабіла, чаму я пашкадавала грошай доктару? Ці Сцяпан на гэта не зарабіў? Ой, памылілася, а то памылілася, — заенчыла Ганна.

Памылку сваю Ганна направіць ужо не магла. А мо жыццё б яму вярнулася. Хто ведае.

НІНА БАБУЛЕВІЧ





## НАВУКА

Праходзіць хвіліна, гадзіна,
Дзень цэлы, і месяц, і год.
Вясной зацвітае каліна,
Гады за гадамі ідуць у паход.

Гадамі змяняюцца землі,
І людзі жывуць, што на іх.
Ідуць у забыццё пакаленні,
Пакінуўшы геніяў сваіх.

Вакол узвышаюцца школы,
Сімвал асветы, жыцця.
Ды шырацца ведаў прасторы,
Над прошлай сістэмай быцця.

Мы вучым гісторыю народаў,
Жылі што лет сотні назад.
Шматлікія роды паходаў,
Страёў устарэўшых расклад.

Мы вучым старанна прыроду,
Хімію, фізіку, Ноп.
Няма за навукай праходу,
Не можам сказаць мы ёй: стоп!

Яна ўсё наперад імчыцца,
Так шпарка, так быстра, стралой.
На хвілю не можа спыніцца,
Новы рыхтуючы бой.

ІРЫНА СЕБЯСЕВІЧ

## Сцежка

Аглушаны свістам ад'язджаючага поезда Алесь затрымаўся. Ледзь не дома — падумаў. Але гэтае «ледзь» не было ўжо такое зусім маленькае. Сем кіламетраў дарогі дзяліла яго яшчэ ад дому. Разглядаючыся навокал, Алесь думаў, якой дарогай яму ісці. Усё тут было такім, якім пакінуў яго Алесь ад'язджаючы. Так як і калісьці былі дзве дарогі. Адна з іх, шаша, а другая — звычайная пясчаная сцяжынка, якая ўецца сярод палёў непаспелага яшчэ жыта, цвітучай якраз бульбы, прабягае праз невялічкі лясок і канчаецца за клунямі вёскі. Шашой было многа бліжэй, але сцежкай многа, многа лепш. Часу ў Алеся было шмат, пагода як бы спецыяльна была выбрана з самых лепшых, а ён ужо даўно не быў дома. З задумы вырваў Алеся піск курапатвы на сцежцы, аб якой думаў ён, стоячы з валізкай у руках. Гэта вырашыла. Алесь накіраваўся на сцежку. Разглядаючыся навокал, ён пазнаваў знаёмыя мясціны. Вось пачынаецца жыта яго бацькі. Засеяна яно на невялічкай плошчы, але Алесь ведае, як дарагое гэтае поле яго бацьку. Калі Алесь быў яшчэ малы, бацька расказваў яму аб тым, як яму, сыну беззямельнага селяніна, жылося перад вайною, аб тым, што выраблялі ў час вайны з ім і яму падобнымі вывезенымі ў Германію беларусамі нямецкі баўэр.

Аб тым, як пасля вайны, нягледзячы на пагрозы бандытаў, мужыкі падзялілі фальварчную зямлю, як першы раз на сваім пасеялі і сабралі, як аддалі дзяржаве ў час абавязковыя дастаўы. І як за гэта спаліла іх вёску банда, Алесь таксама ведае. Многа чаго можа сказаць Алесь аб гэтым невялічкім кусочку зямлі.

Гэтыя часы (быў гэта 1953 г.), калі пачалі арганізаваць «спулдзельні», Алесь сам ужо добра памятае. Памятае, як прыехаў у вёску самаходам «пан з заяводства» — як гаварылі аб ім у вёсцы. Памятае, як ён нагаварваў людзей арганізаваць «спулдзельню». Людзі, аднак, не вельмі паддаваліся намовам. Потым, калі Алесь быў старшы, ён чытаў у газетах і кнігах, што сяляне не хацелі арганізаваць «спулдзельняў» таму, што іх бунтавалі класавыя ворагі. Аднак Алесь ведае, што з гэтай справай было інакш. Алесь разумее сялян. Ён бы таксама паступіў, калі быў бы на іх месцы. Алесь разумее, як цяжка расставацца са сваёй, выбаяванай нарэшце зямлёю.



Але вось палі канчаюцца. Пачынаецца сасновы бор. Алесь мімавольна зварочвае са сцежкі ў лес. Невялікія сасонкі шумяць пагодна, як бы на прывітанне. Вось месца, якое ў вёсцы называюць конскімі могілкамі. Тут мабыць закопвалі калісьці паўшыя коні. А вось з гэтай палянай звязаны найпрыгажэйшыя ўспаміны з дзяцінства. Тут, на гэтай паляне, сабіраліся яны нядзелямі на біўакі. Не раз і не два начавалі пад адной палаткай. Алесь памятае, як аднойчы над ранкам, прачнуўшыся, яны ўбачылі маладую сарну, якая прабягала праз паляну. Ад таго часу яны назвалі палянку «сарняй». І так назва «сарняя паляна» прынялася ў цэлай вёсцы. Інакш цяпер яе не называюць. Калі Алесь выходзіў з лесу, сонца было ўжо над захадам. Яго вялікі цень, смешна памахваючы непрапарцыянальна доўгімі і тонкімі рукамі, шпарка пасоўваўся наперад.

— Пахаладзела, — падумаў Алесь.

ВІКТАР ЛЕМЕШ

# Каляды — старадаўняе свята памёршых

Памыляўся б той, хто думаў бы, што сучасныя звычаі і вераванні каляднага цыкла пратрывалі з няпамятных вякоў у сваёй першапачатковай форме і са сваім зместам.

Кіньма вокам у далёкае мінулае нашых і наогул калядных звычаяў і вераванняў. Цыкл калядных святаў ад «Куцці» аж да «Вадохрышча», мае больш чым іншыя гадавыя святы разнародных і багатых звычаяў і вераванняў. І гэта хіба можна растлумачыць псіхалагічнымі акалічнасцямі простага чалавека. Поўнасцю можна згадзіцца з меркаваннем А. Н. Афанасьева [1]) праф. В. Клінгера [2]) і праф. Ст. Паняtoўскага [3]), якія даказваюць, што з цыклам гэтых святаў выступае ва ўсіх еўрапейскіх народаў (ды не толькі ў еўрапейскіх) адна супольная абрадавая аснова — менавіта — **культ памёршых.** Усюды, дзе толькі праяўляўся культ продкаў, там асабліва моцна выступаў ён у пераломных перыядах года, а перад усім у пару зімовага перасілення. І гэта мы можам растлумачыць псіхалагічнай акалічнасцю. Кароткія дні ў гэту пару года, доўгія ночы, малая інтэнсіўнасць працы ў сялян стварылі такім чынам умовы для роздумаў, кантэмпляцыі і глыбокіх разважанняў аб блізкіх і родных, якія памерлі. Духоўная сувязь паглыблялася з тымі, якія апынуліся ў «іншым свеце». Прытым існавала ў народзе моцная вера ў дапамогу «добрых духаў», асабліва сваякоў, таму ствараўся культ і вялікая пашана да іх. З гэтага і паўсталі святочныя (памінальныя) дні ў гонар памёршых. У такіх абставінах радзіліся таксама ўсялякія варажбы, чары, магія, розныя вераванні і нават цэлыя абрады, якія і звязаліся з каляднымі святамі.

Хрысціянскае свята нараджэння Хрыста да канца IV ст. святкавалася разам з «Вадохрышчам». І толькі ў канцы IV ст. было раздзелена, каб прыкрыць вельмі ўрачыстае свята рымскай імперыі, ладжанае ў «дзень нараджэння непераможнага сонца». Гэтае свята, прынесенае з Усходу праз рымскіх легіянераў напластавалася на мясцовае дзяржаўнае і вельмі ўрачыстае свята рымлян, ладжанае ў пару зімовага перасілення ў памяць памёршых, якое тут называлася Lorentatix, і выпадала 23 снежня. Пазней яно ператварылася ў Saturnalix і святкавалася тыдзень (ад 17 да 24 снежня). А за тыдзень святкавалася навагоднае рымскае свята т. зв. Calenda fanuariac, якое адзначалася вясёласцю, рознымі забавамі, як і Saturnalia. Можна меркаваць, што некаторыя элементы антычных святаў гэтага перыяду года павандравалі ў свет і дайшлі нават да нас. Пацвярджае такое меркаванне, між іншым, і лацінскае слова, якое абазначае ў рымлян першы дзень месяца Calendae. якое дало назву нашым святам зімовага цыкла «Каляды». Цяпер зразумелая назва «Каляды» ў нас і ў нашых суседзяў.

Разглядаючы нашы калядныя звычаі і вераванні, мы без лішняй цяжкасці можам адрозніць элементы народныя.

Спынімся над абрадамі і звычаямі беларусаў (з недалёкай мінуўшчыны), якія выступаюць у перадкалядны вечар (на куццю). Гэта найбольш урачысты і таемны вечар ва ўсім цыкле калядных свят. Ен багаты разнароднымі звычаямі, вераваннямі і магічнымі практыкаваннямі. Калі аддзяліць менш істотныя элементы звычаяў гэтай урачыстасці, то пабачым асноўны характар — **характар задушны,** памінальны, прысвечаны памёршым продкам родным і блізкім.

Сведчыць аб гэтым перад усім **ежа,** якая рыхтуецца на куццю. Менавіта **старажытная традыцыйная каша, мак, боб, мёд** і інш., якія спажываліся нашымі продкамі ў памінальныя дні. Гэта вячэра (куцця) суправаджаецца ў вельмі паважным настроі, каб не «зняважыць душ продкаў, якія паявяцца ў гэты вечар».

Што гэты вечар меў сувязь з душамі продкаў, сведчыць яшчэ і такі звычай у народзе: перад спажываннем вячэры, старэйшая асоба з сям'і (звычайна дзядуля) ўставаў за сталом і ўрачыста клікаў вячэраць «Міколу», «Мароза», або «вераб'ёў», «ваўка». Гэта ні што іншае, як прастарая форма заклікання душ продкаў **куццю есці.** Спажываючы **куццю** быў звычай кожнай стравы адкладаць душам, або кідаць кату ў покуце. А недаедзеная страва заставалася на стале для таго, каб душы продкаў, як прыйдуць ноччу, маглі пасіліцца, пачаставацца. Часамі пры стале пакідалася вольнае месца, як кажуць сёння для «падарожнага», але гэтым падарожным даўней была душа нядаўна памёршага члена сям'і.

Беларусы — католікі, паводле хрысціянскага звычаю, пачынаючы спажываць куццю дзеляцца т. зв. **аплаткам.** Гэта нішто іншае, як змадэрнізаваны хрысціянствам старадаўны народны звычай дзяліцца абрадавым хлебам, аладкамі ў памінальны дзень, прысвечаны памёршым. У перадкаляднай вячэры **ячменная або пшанічная каша (куцця), ды яшчэ з макам і мёдам, з'яўляецца найважнейшай абрадавай стравай.** Памінальны характар перадкаляднага вечара пацвярджае таксама звычай у нас і ў суседзяў рассцілання сена на стале. Сена мае тут значэнне травы, на якой калісьці на магілах раскладалі і спажывалі харчы, прынесеныя ў памінальныя дні.

Быў звычай перад куццёю стаўлянне ў покуці снапа збожжа, куды, як ужо сказана, у час вячэры кідалі кашу. Сноп — гэта сімвал памёршага члена сям'і — (можа дзядулі?).

Прытым не мала было яшчэ розных магічных практык, якія вязаліся ў гэты вечар з дзейнасцю душ продкаў, прыбыўшых на «сваё свята». Маем таксама дачыненне з мноствам варажбоў у перадкалядны вечар. У гэты вечар чалавек пры дапамозе добрых і зычлівых душ продкаў стараўся зрабіць такія чыны, якіх ён сам, без дапамогі, у звычайных абставінах не змог бы зрабіць! А важнейшымі патрэбамі чалавека — гэта дастатак матэрыяльны, здароўе і шчасце сямейнае. Таму ён стараецца запэўніць сабе добры ўраджай палёў, пладаноснасць садоў, поспех у жывёлагадоўлі, замацаваць здароўе. Моладзь праз варожбы і магічныя практыкі таксама стараецца запэўніць сабе ўзаемнае каханне і ў надыходзячым годзе шчаслівае жаніцьства і замужжаства.

Ва ўсіх будучых важнейшых мерапрыемствах чалавек у гэты вечар стараўся выкарыстаць дапамогу памёршых продкаў. Таму з такой павагай, так урачыста праводзіць перадкалядны вечар, каб праз пашану для продкаў здабыць іхнюю прыхільнасць і скарыстаць з неабходнай дапамогі.

Ад «Куцці» аж да «Вадохрышча» — гэты перыяд беларусы называюць «святымі вечарамі». Паводле народнага веравання ў гэтыя вечары ад змяркання нельга выконваць некаторых прац у гаспадарцы. З увагі на тое, што ў гэтыя вечары «лунаюць па свеце добрыя і нават благія духі», таму зямля напоўнена чарамі і небяспекай». І тут маем шмат дачынення з магіяй. Напрыклад, у «святыя вечары» забаранялася прасці, ніткі матаць, вяроўкі віць, каб гэтым не пашкодзіць жывёле, здароўю чалавека і т.п.

Каб урэшце пазбыцца «мілых» але доўга прабываючых гасцей (душ продкаў) у беларусаў быў звычай праганяць іх. Праганялі «Каляду» на «Вадохрышча». Гэта вельмі старадаўны звычай, які практыкаваўся ў памінальны дзень, на «Дзяды», што нават зафіксавана ў «Дзядах» А. Міцкевіча. Можна было б прыводзіць шмат прыкладаў, якія даказваюць памінальны характар калядных святаў, але тут няма месца.

Усе іншыя звычаі і абрады, якія выступаюць у калядных святах, маюць разнародны характар гульняў, забаў, хаджэнне са «Звяздой» з віншаваннямі, «Гэрады» і г.д., і яны храналагічна пазнейшыя або запазычаныя, або і мясцовага паходжання — народныя.

**М. ПЕЦЮКЕВІЧ**

[1]) А. Н. Афанасьев — Поэтические воззрения словян на природу. Москва, 1865.

[2]) Witold Klinger — Doroczne święta ludowe a tradycje grecko-rzymskie. Kraków, 1931.

[3]) Stanisław Poniatowski — Etnografia Polski. Warszawa. «Wiedza o Polsce» t. III..

## • алякcей карпюк •
# ПУШЧАНСКАЯ АДЫСЕЯ

**У мяне з бацькам ёсць умоўленае месца, якое мы называем поштай. З краю лесу расце некалькі густых елачак, пад імі кладзём адзін другому пасылкі. Каб не вытаптаць туды сцежкі, я на крайняй сасне вешаю паперку, бацька праз акно з кухні бачыць яе і толькі тады пасяшае на пошту. Мне ён вешае паперку на просецы.**

**Выходжу на просеку, — на дрэве бялее лапіна. Спяшу да елачак. Пад імі жоўты партфель з бацькавай прыпіскай: «Прывезла табе з Беластока сёння Маруся».**

**Асцярожна адкрываю замок. У партфелі — кіпа нямецкіх чарцяжоў. Прыглядаюся лепш, і мяне агортвае страх. Старанна, з веданнем вайсковай і чарцёжнай справы вызначаны пазіцыі зенітных батарэй у Беластоку, план аэрадрома бамбардзіроўшчыкаў, бамбасклады, бензасховішчы, пакгаузы, бункеры, казармы. За зіму і вясну фронт з усходу прыблізіўся на некалькі соцень кіламетраў. Авіяцыю дальняга вылету немцы днямі перавялі з Мінска ў Беласток. І калі ласка, перада мной — план новай дыслакацыі авіячасцей! Вось дык Маруся!**

**Я ніколі не бачыў такіх важных дакументаў. Нядаўна Чыгроў, высылаючы ў Страшава, засланяў рукой карту, каб я барані бог не разгледзеў чорных і сініх крыжыкаў, а што яны азначалі? Драбніцы, вядомыя кожнаму селяніну, — камендатуры, бункеры на чыгунцы. Цяпер капітан пазелянеў бы ад зайздрасці. Забіраю бацькаву «пасылку», іду да сваіх.**

155

**Прыбылі мы з Гуты дзён дваццаць таму назад і спыніліся ў нашым лесе, які называецца Ліпнікі. Вайцяхоўскі толькі паспяваў прымаць гасцей са Страшава. Ішлі мужчыны і жанчыны, неслі поўныя кошыкі ежы, бутэлек. Леснікам над Ліпнікамі быў усё той самы Міцька Карповіч. Без мяне камбрыг тут не спыніўся б, я быў п'яны ад усведамлення, што даставіў землякам прыемнасць. Вайцяхоўскі прыглядаўся, нарэшце адклікаў мяне ў лес.**

**— Тут можна арганізаваць цэлы партызанскі атрад, чацвёрты ў нашай брыгадзе, як думаеш?**

**Я шчасліва ўсміхнуўся.**

**Камбрыг раскрыў планшэт, ткнуў пальцам у карту:**

**— Брыгада носіць імя Каліноўскага. Ён нарадзіўся шэсць кіламетраў адгэтуль, у Мастаўлянах...**

**— Гэ, мне яшчэ гаворыце! У Мастаўлянах быў наш прыход да рэвалюцыі! Мой бацька, дзед, прадзед там хрышчоныя!**

**— Бачыш, як усё складваецца! — узрадаваўся ён. — Імем Кастуся назавём і атрад, згодзен?**

**— Здо-орава!**

**— Віця, падрыхтуй загад! — кінуў ад'ютанту.**

**Я нават не паспеў апамятацца, як ад'ютант, наш Віктар Раманцэвіч, паднёс камбрыгу на подпіс загад аб арганізацыі новага атрада, камандзірам якога назначалі... мяне! Хлопцы выставілі на мох страшаўскую самагонку. Гэты раз піць я мусіў.**

**Усё адбылося нібы на хрысцінах, калі п'юць за малое, расхвальваюць яго ўяўныя якасці, даюць парады, вызначаюць яму жыццёвы шлях, а яно сабе ляжыць і бурбалкі пускае. Я наіўна думаў, што ў вышыўцы галоўнае праглынуць славутую вадкасць — гарэлку. Сабраў усю сілу волі, перакуліў у рот шклянку першака і не адчуў, што гэта вадкасць. У рот бухнула полымя! Агонь праз горла хлынуў у жывот, апёк грудзі, забіў дыханне. Зацьміла ад слёз вочы, сосны захісталіся, і, каб не паляцець у сінюю бездань, я выцягнуўся на мох, ашчаперыўся на зямлю.**

**— Ужо-о? — здзівіліся хлопцы.**

**— Уставай, герой!**

156

**Але я баяўся адарвацца ад зямлі. Таварышы падхапілі мяне, прысланілі да дрэва. Нічога не чуў, што да мяне гаварылі, якія давалі парады. Апамятаўся не хутка.**

**— Раскошныя ў цябе ўмовы, Алёшка, — заявіў камбрыг. — Зайздрошчу! Не толькі атрад, — злучэнне можна тут арганізаваць. Усё залежыць ад цябе самога. Давай, дзейнічай, а нам пара. Не будзем перашкаджаць, скоўваць ініцыятыву...**

**На месяц уперад перадаў паролі, даручыў адрасы новых сувязных, параіў, як сябе паводзіць. Я быў не супроць атрада ў нашай мясцовасці, але для гэтага трэба, каб з Масквы прыбыў сюды сапраўдны камандзір тыпу Вайцяхоўскага, за кім можна было б ісці ў агонь і ваду. Арганізавацца самім?.. Не адпіраўся, бо ведаў, што не паможа, і ўсё гэта казытала маё самалюбства.**

**Не стала камбрыга, адразу на мяне ўзваліліся клопаты. У атрад папрасіліся знаёмыя хлопцы, а чым іх узброіць? З паўстанка забраў кулямёт, гранаты. Пару**



**Ліпнікі, 1965 г. Фота Ул. Паўлючук.**

157





### БУХГАЛТАР НА ПАЛЯВАННІ



...22895, 22896, 22897, 22898...

### ВЫЧАРПАЛЬНЫ АДКАЗ

Прафесар: — Што вы можаце сказаць пра вялікіх хімікаў XVII стагоддзя?

Студэнт: — Яны ўсе памерлі...

### У ЗУБНОГА ЛЕКАРА

Лекар: — Чаму вы так крычыце, я ж яшчэ не дакрануўся да вашага зуба?

Хворы: — Гэта праўда, але вы стаіце на маім мазалі.

### МАЛЕНЬКАЯ РОЗНІЦА

— Вось бачыш, і тата таксама цябе можа выкупаць, а ты думаў, што мы без мамы не абыйдземся.

— Так, зразумела; толькі мама заўсёды перад купаннем здымае з мяне чаравікі.

## ЧАТЫРЫ пірагі



Было гэта яшчэ за старых часоў. Ішоў салдат дамоў ды й папрасіўся да адной бабы пераначаваць. Яна яго пусціла.

Раніцай баба збіралася ў царкву ды й кажа салдату:

— Я йду ў царкву, а ў печы чатыры пірагі. Як спякуцца — выцягнеш.

Салдат выцягнуў з печы пірагі, два з'еў, а два пакінуў.

Прыходзіць баба, бачыць толькі два пірагі і пытае:

— Выняў пірагі?
— Выняў!
— Колькі іх было?
— Чатыры!
— А дзе два?
— Вось два.

Баба зноў:
— Колькі было пірагоў?
— Чатыры.
— А дзе два?
— Вось два.

Так баба і не дапыталася.





Калі ты закрыў вочы, — не думай, што скрозь цёмна.



## МУЖЧЫНЫ

Сёння нядзеля. Дома, здаецца, рабіць няма чаго, і мы — я, Мікола, Міхась, Антось, Змітрок і Ягор, — зайшоўшы ў святліцу, схапіліся ў «дурня». Шасталі карты, справа і злева сыпаліся козыры, нашы партнёры раз за разам «цягнулі» і канчаткова заставаліся ў «дурнях».

Гульня дасягнула найвышэйшага азарту, як раптам грукнулі дзверы, і ў памяшканні зазвінеў прарэзлівы голас Міколавай жонкі:

— Ах ты, лайдак гэткі! У хаце ні кроплі вады, а ён лынды б'е!..

Мікола падняўся, вінавата, нібы просячы прабачэння, пацімнуў плячыма і падаўся з хаты. Партыя была разладжана.

— Ну і жыццё, — кісла ўсміхнуўся Міхась. — Не зайздрошчу такому. Жонка круціць ім, як хоча, а ён нават слова насуперак баіцца прамовіць. Ануча, а не чалавек, — прыйшоў да вываду Міхась.

— І ў яго ўжо плячо адно ніжэйшае, на якім карамысел цягне з вёдрамі, — хіхікнуў Антось.

— Кажуць, што ён нават дзяцей і пялёнкі сам мые, — дадаў пад агульны смех Змітрок.

— І кароў доіць, — уставіў Ягор.

Невядома, колькі б яшчэ смяяліся і кпілі хлопцы з Міколы, каб не прагрымеў пад акном грозны голас Міхасёвай жонкі.

— Дык вось ты куды зашыўся! Карова не поена, свінні не кормлены, — сакатала жонка, бы тая сарока на плоце. — Я адна пнуся, аж жылле трашчыць, а ён і не дбае!..

Міхась сарамліва апусціў галаву і, не гледзячы на нас, выскачыў на двор.

— Не ведаю, як толькі мужчыны паддаюцца бабам, — пацісцуў плячыма Антось, як толькі за Міхасём зачыніліся дзверы. — Калі б мая кабета выкінула гэтакі «конік», дык я яе ў казліны рог скруціў бы. Я... — і не дакончыў. У дзвярах стаяла яго жонка, Параска.

— Дык гэта ты мяне, нягоднік, у казліны рог надумаўся скручваць? — выдыхнула яна, рашуча накіроўваючыся да мужа.

Антось, як пабіты, шмыгнуў у дзверы. Змітрок і Ягор, пераглянуўшыся, дружна зарагаталі яму ўслед. І раптам асекліся... Па дарозе ў напрамку святліцы шпарка шыбавалі іхнія жонкі. Сустрэча з імі нічога добрага не абяцала, і мужчыны паспешліва рэціраваліся за вугал святліцы.

Я застаўся адзін. Пазбіраў раскіданыя па стале карты і паціху рушыў дамоў. Чаго добрага і мая кабеціна прыпрэцца. А ад яе тады не чакай ласкі. Ды і есці штосьці захацелася.

**Уладзімір Трыбуналаў**



## ДУМЫ ЯСЕЯ І АПАЛОНІКА

Каб памёршы пачуў, што па ім плачуць, ён устаў бы і ўсіх супакоіў.

Калі час папіхае, не ўпірайся, бо зломішся.

Цынік заўсёды незадаволены са свайго пункту бачання.

Псіхічны багаж часта немагчыма падняць, бо ў гэтай аперацыі непрымянімы ніякія рычагі.

Многа ёсць такіх крокаў, якія робім зусім незалежна ад нашай ахвоты.





Святочны канцэрт

## УСЯЧЫНА



Нерашучасць

Кур'ёзы

### Самы добрасумленны

**Англійскі горад Бірмінгем можа ганарыцца самым добрасумленным вартаўніком свайго гарадскога парка. Кенет Ален кожны вечар званком папярэджвае наведвальнікаў аб закрыцці сада, пасля чаго старанна зачыняе вароты сада «Лайтвудпарка» — іх чатыры. Пры гэтым яму ніколі не перашкаджае той факт, што парк не мае ніякай агароджы.**

### ПЕСНІ ПА ЗАЯЎКАХ

Па просьбе **Аліка Граматовіча** з Гайнаўкі, **Васіля Раманюка** са Збуча, Гайнаўскага павета, і **Яўгенія Лаўрэшука** з Кухмаў, Беластоцкага павета, змяшчаем польскую песню:

## PUSTE KOPERTY



Na niebie już gwiazdy znikają
i ranek się budzi ze snu.
Od dziś sama będziesz kochana
i znów sama będziesz i znów.

Więc żegnaj, ach, żegnaj kochana,
więc żegnaj, bo na mnie już czas,
nim statek mój z portu wypłynie
pocałuj mnie choć jeden raz.

I jeszcze o jedno chcę prosić
czy dobrze ci będzie czy źle
przyrzeknij, że nigdy nikogo
tak kochać nie będziesz jak mnie.

A jeśli już kogoś pokochasz
i serce oddasz mu swoje,
przysyłaj więc puste koperty
niech myślę, że wciąż kochasz mnie.